КРЫК ДУШЫ

# Нікому ўжо не веру

Маю 77 гадоў за плячыма. Тое-сёе пабачыў на сваім вяку. Сумна, скажу вам, вельмі сумна, што амаль пражыў жыццё, а нічога добрага так і не бачыў. Даваенная галота, потым вайна з яе незабыўнымі жахамі. Малы быў, а памятаю, як мы, пацаны, наляпілі на сцяну хлява партрэт Гітлера і давай кідаць у яго каменьчыкі. Паліцаі цап за каршэнь і пацягнулі ў камендатуру. Нас хацелі расстраляць, але нашы маці са слязьмі і лямантам кінуліся выручаць сваіх 5—7-гадовых "партызан"-падшыванцаў. Нямецкі афіцэр падумаў-падумаў і сказаў: "Ладна, малыя зусім". Можна сабе ўявіць, што перажылі ў гэтыя моманты мацярынскія сэрцы!

Немец злітасціўся, а вось каб на рашэнне паліцаяў, дык наўрад ці засталіся б жывыя. Усе ведалі, якія жорсткія, бязлітасныя гэтыя падонкі "са сваіх", баяліся іх болей, чым акупантаў...

Пасля вайны — яшчэ большая, чым раней, галота і нішчымніца. З сялянскіх падворкаў, дзе засталіся амаль спрэс удовы палеглых у вайну абаронцаў Радзімы, дзятва ды старыя, вымяталася ўсё ўшчэнт. Хоць з голаду памірай. Свае ўжо — не чужынцы — абдзіралі сваіх жа: без жалю, без одуму здзіралі з сялян па сем шкур. Начальнікі і начальнічкі адно ведалі: цісні на безабаронных людзей, раз маўчаць.

А мы маўчалі, цярпелі, разумелі, спадзяваліся: вось узнімецца з попелу знявечаная зямля, пабагацее краіна, і зажывём, як і не марылі. Аказалася — пустое. Абяцанкі камуністычнага кіраўніцтва і выедзенага яйка не былі вартыя. Хрушчоў са сваімі кукурузнымі прыдумкамі і іншымі глупствамі выкараняў з працаўнікоў зямлі спрадвечны дух рупнасці, гаспадарлівасці, клопату аб сям'і і нашчадках. Усё забаранялася селяніну, яго зноў абдзіралі да ніткі, нават за яблыню ля хаты трэба было сплаціць налог, і на вёсцы сталі высякаць сады.

Колькі тады моладзі збегла з родных хацін у горад! І цяпер той паток, які ўсё магутнее і магутнее, амаль абязлюдзіў нашы вёскі. Аднак ніхто за гэта не адказаў і не адказвае, быццам так і трэба было. (Аграгарадкі — хутчэй вітрына. А за ёй...)

Помню, як у 1994-м выбіралі першага прэзідэнта ўжо незалежнай Беларусі. Тады ўся вёска (кажу не толькі пра сваю) галасавала за Лукашэнку. Зноў спадзяваліся, верылі: ужо хто-хто, а гэты, сам вясковы чалавек, нас зразумее, не абыдзе ўвагай беды сялянства. І што? Ці ў савецкі час, ці зараз — амаль адно і тое. Чыноўнікаў развялося — Божа мілы! Як іх ні скарачаюць, а на трактар ці да заводскага варштата яны не ідуць, множацца ў кабінетах і множацца па-ранейшаму. Скароцяць у адным месцы — уладкуюць яшчэ лепш у іншым крэсле, і дзетак не забудуць — як мае быць. А калі ж гэтае "як мае быць" дабярэцца да простага чалавека?

Я па-ранейшаму разумею: у дзяржавы, канечне, процьма дзірак, якія трэба тэрмінова затыкаць. Але дзе ж дзяецца плён працы горада і вёскі, куды ідуць агромністыя сумы, адабраныя ў сумленных працаўнікоў праз рабаванне іх укладаў, праз розныя бясконцыя эканамічныя і фінсавыя фокусы?

Галоўная ж бяда і боль, што нас, простых людзей, ніхто з чынавенства і слухаць не хоча. Што ў мясцовых органах улады, што вышэй — закон у іх пад нагамі, ніякай справядлівасці нідзе не знойдзеш.

Ды што я кажу, гэта амаль кожны вясковец (і не толькі ён) бачыць на ўласныя вочы. Таму і не прыводжу канкрэтных выпадкаў, імёнаў — іх вакол проста незлічона. Асабліва крыўдна: да гэтай пары дзяржава не вярнула народу тое, што ў яго адабрала і кінула на раскраданне чыноўнікам. А ўжо мінула 19 гадоў пасля першых прэзідэнцкіх выбараў!

Смешна і абуральна, што нават тымі мізэрнымі льготамі, якія засталіся пасля іх "вышэйшага" абразання ў такіх, як я і тысячы іншых перасяленцаў-чарнобыльцаў, карыстацца амаль немагчыма. Круцяць-муцяць імі мясцовыя чынушы, як хочуць. Трэба дабівацца (а чаму?) паложанай палёгкі на аплату лімітаў газу, дроў, электрычнасці, транспарту і гэтак далей. І можа стацца, што нічога не выхадзіш, як тое сталася з выкідваннем маёй сям'і са спісу на льготнае атрыманне жылля.

Не, шаноўны Аляксандр Рыгоравіч, не ўсё так прыгожа і бліскуча ў дзяржаве, як вы гаворыце ў сваіх шматлікіх прамовах. Панаставілі над намі камандзіраў, якія затыкаюць вушы, каб не слухаць людскія скаргі і патрабаванні. Нікому я цяпер не веру. "Ператрахваеце" свае кадры час ад часу, а толку што? Гэта і хацеў запытаць у вас, майго колішняга абранніка. Мо хопіць без канца і краю весяліцца, балеваць і святкаваць, а лепш глянуць, што творыцца насамрэч у краіне?

**Аляксей Іванавіч ДАНЧАНКА,**
**жыхар Бешанковіцкага раёна,**
**чарнобыльскі перасяленец.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# *Кожнаму цяпер трэба БТР*

***Міністэрства абароны тэрмінова распрадае сваю маёмасць — ад скальпеляў да бронетранспарцёраў (БТР).***

*Фартуны выбрыкаў-законаў,*
*На жаль, не ведае ніхто...*
*І Апанас аж сто мільёнаў*
*Аднойчы выйграў у лато!*
*Такое шчасце — не заўсёды...*
*На што ж патраціць грошы след?*
*Сабраўся з гэтакай нагоды*
*Сямейны, мовіць так, савет.*
*Спярша сказалі дзеці словы:*
*— Адзежу носім мы здавён...*
*Купіце нам усім абновы,*
*Дадаткам кожнаму — айфон.*
*— Нічога з вашага намеру*
*Не выйдзе, бо "шмацця" ўжо шмат!*
*Набудзем новую кватэру,*
*І гэта будзе першы ўклад, —*
*Такая жонкі прапанова —*
*Не вечна ж жыць на "пятаку"...*
*Ды цешча зыркнула сурова*
*На "недалёкую" дачку.*
*— Не слухай, што яна тут плешча,*
*А на мяне зважай, зяцёк, —*
*Сказала важка слова цешча, —*
*Шчэ дах, здаецца ж, не пацёк.*
*Не трэснулі на сценах трубы,*
*На іх шпалеры не вісяць...*
*Ты лецішча купі, мой любы,*
*Мой самы ненаглядны зяць!*
*Я там сабе ўскапаю грады,*
*Засею для курэй траву...*
*І будзеце вы з жонкай рады,*
*Што з вамі летам не жыву.*
*Ды неўспадоб для Апанаса*
*Такі расклад.*
*Ён гаркнуў:*
*— Ша!*
*Нам трэба жыць суладна з часам,*
*І вось што купім мы спярша.*
*Я чуў, што нашыя ваякі*
*Збяднелі, як сягоння ўсе,*
*І тэхніку ды хлам усякі*
*Збываюць людзям пакрысе.*
*Відэльцы, кружкі, боты, шапкі —*
*Чаго там толькі і няма.*
*Зграбай, як кажуць, у ахапкі,*
*І ўсё амаль што задарма.*
*Нам тыя кружкі на халеры?*
*Народу сёння самы час*
*Мець у запасе "бэтээры"!*
*Адзін з іх мы замест кватэры*
*І купім! — мовіў Апанас. —*
*І будзе акурат дарэчы,*
*Як у камплекце й кулямёт.*
*Мы зажывём па-чалавечы,*
*Не мецьмем клопатаў-турбот!*
*Яшчэ дадаў на ўзнёслай хвалі:*
*— Пра гэта марыў я даўно...*
*А калі б танкі прадавалі —*
*І танк купіў бы заадно.*
*Хоць дзеці, жонка — з недаверам,*
*А цешча нават і кляла,*
*Ды ён разжыўся "бэтээрам",*
*Хай БТР і без "ствала"...*

* * *

*На жаль, не ведаю, як потым*
*Ужыў машыну Апанас,*
*Ды БТР (і з кулямётам!)*
*Сягоння кожнаму якраз.*
*На чым жа падруліць да банка,*
*Каб ён дзяшовы даў крэдыт?*
*(Тут нават мала будзе танка,*
*Бо банк трывалы, як граніт).*
*На чым "пад'ехаць" да начальства,*
*Каб павялічыла аклад?*
*(Зарплаты ў нас растуць не часта,*
*Калі ж растуць, дык не нашмат.)*
*На чым у крамы "з інтарэсам"*
*Наведвацца ёсць сэнс цяпер?*
*Калі не маеш "мерседэса",*
*Згадзіцца толькі БТР.*

ПЫТАННЕ—АДКАЗ

## *Сертыфікацыя тавараў з краін, якія не ўваходзяць у Мытны саюз, абавязковая*

Нагадаем, з 1 ліпеня, паводле тэхрэгламенту Мытнага саюза, прадпрымальнікі абавязаны мець суправаджальныя дакументы на тавары лёгкай прамысловасці. Але беларускія гандляры, якія набываюць адзенне на рынках ў Маскве, скардзяцца на немагчымасць атрымаць такія дакументы ў сваіх пастаўшчыкоў.

Не так даўно адбылася забастоўка беларускіх прадпрымальнікаў, пасля чаго чыноўнікі пайшлі на саступкі — да лістапада 2013 года ўведзены мараторый на праверкі.

А вось чытач "Народнай Волі" **А.Г.Былінскі** з г.Рэчыцы звярнуўся ў рэдакцыю і пацікавіўся: *"Калі тавар выпускаецца вытворцам у гандаль, ён ужо сертыфікаваны і другі раз яго сертыфікаваць не трэба. У нашым выпадку мы бачым проста спробу папоўніць бюджэт, і гэтае патрабаванне, на мой погляд, незаконнае. Ці не так?"*

— Калі вытворца знаходзіцца ўнутры Мытнага саюза, значыцца, і тавар ён выпускае па рэгламенце гэтага саюза, — распавядае старшыня РГА "Перспектыва" **Анатоль Шумчанка.** — Але тыя ж кітайскія тавары, згодна з новымі правіламі, павінны будуць праходзіць сертыфікацыю. Іншая справа, калі б вытворца атрымліваў акрэдытацыю на тавар, перш чым яго адпраўляць на экспарт... Вось і прымушаюць прадпрымальнікаў рабіць сертыфікацыю тавараў з краін, якія не ўваходзяць у Мытны саюз.

СПОРТИВНЫЕ ДЕЛА

# Почему на стадионах так мало болельщиков?



Поверьте, что не пропускаю ни одного матча чемпионата страны по футболу, имею в виду центральные матчи туров, которые транслирует телеканал "Беларусь-2". Регулярно смотрю матчи и непосредственно с трибуны минского стадиона "Трактор", так что темой, как говорят, владею. И вижу, что на трибунах стадионов по-прежнему много пустых мест. Средняя посещаемость каждого тура около трех тысяч человек. Говорят, поставлена задача увеличить количество болельщиков на 10 процентов. Это просто смешно!.. О каком увеличении может идти речь, если фанаты "Динамо" бойкотировали матч с ФК "Минск" на стадионе "Трактор", который может принять около 17 тысяч болельщиков, а на этом матче присутствовало чуть больше трех тысяч? Как говорят фанаты, бойкот начался из-за проверки паспортов. Да, такого еще не было! Между прочим, их поддержало и руководство динамовского клуба, официально обратившееся к председателю ассоциации "Белорусская федерация футбола" **Сергею Румасу**. Пока тихо.

Думаю, что сотрудникам нашей милиции нужно учиться работать с современными фанатами, не размахивая дубинками, не выворачивая карманы и не проверяя паспорта, а методом разъяснения и убеждения, что лучше получается у женщин-милиционеров.

В тех же случаях, когда фанаты допускают нарушения общественного порядка, они должны знать, что сотрудники милиции — это не коты Леопольды, которые будут призывать их: "Ребята, давайте жить дружно!" С их стороны вполне обоснованно будут применены меры воздействия, разрешенные законом.

Наши фанаты должны понять, что болеть за любимую команду надо не горлом, не размахиванием рук, а прежде всего сердцем и умом!

Убежден, что к болельщикам нужно относиться уважительно, ведь футбол — радость их жизни, и омрачать ее просто нельзя. Как болельщик более чем с 60-летним стажем, говорю громко вам, фанаты: болейте, как люди, понимающие и любящие футбол! А проблему пустых трибун должны совместно решать административные органы, АБФФ, футбольные клубы и стадионы. Именно совместно, иначе так и будем из сезона в сезон из пустого в порожнее переливать...

**С уважением —**

**Юрий ЯСИНСКИЙ,**
**ветеран спорта,**
**заслуженный тренер Беларуси,**
**болельщик с 60-летним стажем.**

ДИСКУССИЯ

# Реформа без реформы,

## *или Поможет ли чем-нибудь смена декораций чуть дышащей белорусской науке?*

Хочу сразу сделать оговорку. Я не собираюсь оценивать достоинства или недостатки белорусской экономической модели в целом. У меня не та профессия. Но мой личный опыт обитателя нижних этажей пирамиды белорусской науки все же позволяет сделать некоторые выводы. Они вполне могут пригодиться. Если не сегодня, то завтра.



Сохранение нынешней ситуации в неизменном виде чревато опасными последствиями для страны, но может быть вполне приемлемым для верхнего среза упомянутой пирамиды, независимо от того, какие "фамилии" устроены там сейчас или будут устроены в будущем.

Мне неведомо, какую модель белорусской науки изначально хотели построить "рулевые". Не исключаю, что идеальную. Но вышло, как всегда. Общаюсь со многими учеными, начинающими или достигшими пенсионного возраста. Тех, кто доволен нынешней ситуацией, единицы, и они, как правило, ближе к верхней прослойке пирамиды или их туда усиленно проталкивают как *"своих"* людей.

Приведу всего лишь несколько примеров. Они, как собирательная линза, сконцентрировали наши наболевшие проблемы, в первую очередь проблемы нравственности, чести, ответственности, профессионализма и т.д. Об оплате труда еще окончательно не разбежавшихся квалифицированных кадров с нижних этажей говорить, похоже, уже просто бесполезно.

### Пример первый

Ровно девять лет назад я заканчивала одну серьезную работу. Разработка касалась способов защиты ценных бумаг и документов. Шел четвертый год, как мне за нее практически ничего не платили, но азарт — порой это хуже неволи. Мой рукописный отчет, точнее, его первая часть, хранился в сейфе в соответствии с инструкцией. Случилось так, что сам отчет и сопутствующие ему документы были изъяты особой, не имеющей доступа к ним, после чего мне было предложено за очень смешные деньги — 50 долларов в эквиваленте — продать вторую часть отчета.

Я немедленно поставила в известность свою администрацию. Несколько дней борьбы, и *"возмутителя спокойствия"* вынудили все вернуть. Почему-то обошлись даже без банального выговора, хотя имело место грубейшее должностное правонарушение.

А еще через пару недель мне устроили образцово-показательную порку, обвинив в плагиате и попытке присвоить результаты чужого труда. Каким образом моя рукопись попала в охраняемый сейф, мне до сих пор никто не объяснил. Верхи до таких мелочей не опускаются. Мне так и не удалось выяснить, кто дал указание устроить то позорное судилище. Когда "народные заседатели" разошлись, председательша попросила меня всех их простить. Сотрудниками, выполнившими исследование, были объявлены люди, образование которых если и позволяло разобраться в готовых документах, то с большим трудом.

Кстати, о случившемся они узнали позже, и каких-либо претензий с их стороны ко мне не было. Повторить мой вариант синтеза не смогли: самое важное было спрятано между строк или отсутствовало. Пойти дальше — тем более. Работа в конце концов зачахла. Я осталась без честно заработанных денег и с неприятной "меткой". Ею время от времени пользовались, если кому-то хотелось унизить меня или вынудить прекратить исследования, уступив дорогу "нужным" людям.

Похоже, что альтернативы белорусская научная модель боится и не терпит, кроме тех случаев, когда она получает гораздо лучшее решение в качестве дара или продукта экспроприации. У меня по крайней мере другого опыта нет.

Менять место службы, да еще в той тяжелейшей жизненной ситуации, было поздно и невозможно, жаловаться — бессмысленно. Хотя я сделала должные выводы, окончательно избавиться от необходимости отрабатывать чужие деньги так и не смогла — контрактная петля-удавка не позволила. Получателям халявы я оставила право возмущаться моей длинной и вредной памятью. Из кислого лимона в конечном итоге я приготовила отличный лимонад, отточив свои навыки и переработав накопленную информацию. Сегодня я называю химию "математикой молекул". Рейтинговые журналы принимают мои статьи для опубликования без замечаний. А ведь я для системы никто. Именно это я услышала в свой адрес от одного из наших завлабов, когда отказалась от вновь предоставленной мне "чести" задаром потрудиться на его кошелек. Были и такие, кто сожалел, что закон не позволяет опустить кандидата наук до лаборанта — грамотных, бесправных и почти бесплатных работников в науке стало бы больше.

### Пример второй

В прошлом году я присутствовала на большой защите "своего" человека. Было стыдно за титулованных дядечек. Ведь не голодают и в землянках не живут, детки устроены, и внукам есть чем помочь. Их ответом на откровенный абсурд и лысенковщину стали исключительно "белые шары". Ни одного "черного". Хотя бы для страховки. Стоит ли так позорить свое имя ради чужих амбиций? Или дело в круговой поруке? К счастью, дальнейшие дорогостоящие работы в указанном направлении прекращены. Насколько мне известно, никто не взял на себя ответственность за негативные последствия "легкого" решения непростой проблемы. А ведь эти последствия были очевидны еще до того, как хорошо оплачиваемые исполнители залезли в карманы налогоплательщиков. Будем надеяться, что в будущем от подобных инноваций Господь нас убережет, даже если получателю вожделенного диплома обеспечат быстрый карьерный рост. Остается, правда, открытым вопрос, как долго мы сможем противостоять подобным "пионерским" решениям.

### Пример третий

Разговаривала недавно с молодой сотрудницей. Она расхваливала профессиональные таланты своего коллеги-однокашника, не имеющего, кстати, должного химического образования. Оно дается только на химическом факультете университета. Наша работа требует от будущего ученого — не получателя большой зарплаты — несколько иной базовой подготовки и качественного усвоения курса неорганической, аналитической и физической химии. Это три года ответственной и трудной учебы. Сама по себе озвученная идея помочь молодому дарованию разобраться в весьма сложной области знаний, вывести его на верную дорогу и оказать содействие при выполнении инновационной работы, достойной докторской степени, говорит о многом. Я занимаюсь такими исследованиями всю свою научную жизнь, а в последнее время как раз данной проблемой. И мне понадобилось около трех лет упорного труда, чтобы найти ответы хотя бы на основные вопросы, ломая при этом устоявшиеся стереотипы и пробивая глухую стену непонимания. Но что-то защищать мне никто не предлагал и по определению никогда не предложит. К тому же мне известно, что последняя попытка старших товарищей решить упомянутую проблему при шикарном финансировании проекта закончилась весьма интересной формулировкой финансирующей стороны: было пусто, а стало совсем пусто. Сравнивать зарплаты — мою и молодого человека — бессмысленно, поскольку возникает закономерный вопрос, кто и у кого должен учиться. А тут на тебе, не слишком заморачиваться, но хорошо подняться, чтобы потом "рулить" перебивающимися с хлеба на квас наставниками.

### Пример четвертый

В сущности, он является продолжением предыдущего. Когда я поставила в известность большого начальника, что нашла оптимальное решение, он ответил, что это невозможно, поскольку в противном случае **я бы все ему отдала.** Лучше не скажешь: четко сформулирован основной принцип отношений между научными "сюзеренами" и "вассалами" — средневековое право первой ночи в интеллектуальном исполнении. А ведь речь идет не о добром дяде-спонсоре, оплатившем из собственного кошелька чье-то любопытство. Да и цена вопроса — продукт творческого труда, результат долгой и сложной работы, хотя получателю подарка готовое решение может показаться легким и само собой разумеющимся.

К сожалению, многие из "рулевых", ничего не вложившие в "подданных", искренне верят, что по праву владеют их душами. До графа Шереметева, обучавшего своих талантливых крепостных у лучших педагогов и мастеров, чтобы потом подписать им вольную грамоту, нашим господам далеко.

Думаю, примеров достаточно. Согласна, что в белорусской науке возможны и другие варианты.

Смена вывесок или способа комплектования руководящей прослойки в данном случае едва ли что-то изменит — строительство белорусской научной пирамиды по факту давно завершено. Те, кто пониже, все равно уже потеряли право, способность или желание задавать неудобные вопросы тем, кто повыше. Даже в случае, когда эти вопросы не выходят за рамки научных дискуссий. Или потому, что это может вызвать бурю негодования, или потому, что самих дискуссий по пирамидальной вертикали попросту нет. Нет гласности и прозрачности, нет духа состязания и положенной "по инструкции" честной процедуры выбора наилучшего решения. Есть приказы-постановления, тихое распределение денег, а при необходимости — поиск затюканного исполнителя с контрактным кляпом во рту, который эти деньги как-нибудь отработает, если у их получателей возникнут проблемы.

Деградация важнейших направлений отечественной науки сегодня настолько очевидна, что отрицать или замалчивать сей факт просто нелепо.

Не думаю, что причина случившегося кроется только в недостаточном финансировании. Даже в существующих неблагоприятных условиях можно было если не приумножить, то хотя бы сохранить накопленное прежде. Дело в качестве, а не в количестве научных работников, а также воле, совести и целях конкретных управленцев. Правда, последние факторы слишком субъективны и не дают никаких гарантий. Пока в научной среде не будет естественного отбора и заказчика, заинтересованного в конечных результатах работы, а не в бюрократическом распиле денег, а также реальной ответственности исполнителей за откровенные и заведомо предсказуемые провалы, никакими реорганизациями белорусскую науку не спасти. И при фантастическом финансировании по-прежнему не будут выделяться хотя бы жалкие крохи на проработку альтернативных решений. Все будет направляться в одну корзину, даже если она будет в руках дилетантов-любителей. Руководство будет реветь, краснеть, потеть и мучительно искать выход из создавшейся неприятной ситуации. Но выкрутится, ведь до сих пор выкручивалось.

Очередная идея как-то иначе все обустроить представляет, скорее всего, разборки на верхнем уровне научной пирамиды в попытке перетянуть на себя пересыхающие финансовые потоки вместе с остатками окончательно не разбежавшихся исполнителей. Ведь невозможно отрицать тот факт, что высокооплачиваемой прослойке, независимо от ее месторасположения, необходимо соответствующее научное сопровождение и люди, которые могут его обеспечивать на должном уровне. А умных и скромных трудяг, стесняющихся или давно отвыкших напоминать о себе, с каждым днем становится все меньше. Стареют, слабеют или еще раньше уходят из науки из-за бесправия, откровенной серости, засасывающей на десятилетия карьерной "стабильности" и нищенских зарплат. Впрочем, судьба пчелок-работяг едва ли волнует тех, кто сверху. Недовольных никто не держит. По обязательному распределению придут новые "кадры", да и пенсионерам бежать особо некуда. Принцип "на наш век хватит" — в действии.

Все зашло слишком далеко, и смена декораций едва ли чем-нибудь поможет чуть дышащей белорусской науке. Да и сама процедура заполнения верхнего слоя пирамиды обитателям нижних этажей не интересна. У них давно отняли веру и надежду.

Горько и больно. Опускаются руки. Что до меня, то я отхожу в сторону и уступаю дорогу тем, кто знает, как снять урожай, ничего не посеяв.

**Наталья ШУЛЬГА,**
***кандидат химических наук,***
***бывший старший научный сотрудник.***

КОМПЛИМЕНТЫ

## *Спасибо за любовь и за талант*

Уважаемая редакция!

Позвольте через Вашу газету обратиться к Владимиру Некляеву и сказать ему спасибо.

Разрешите поблагодарить Вас, Владимир, за то, что сердцем болеете за Беларусь.

За Вашу пришедшую с годами мудрость.

За талант.

За любовь к истокам и людям.

Вы — яркий представитель интеллигенции, о которой, как Вы пишете, *"народ нават не здагадваецца, што яна ў яго ёсць"*.

У каждого есть своя ниточка, связывающая с истоками, как у Вас *"крэўскія пагоркі, па якіх іду, маленькі, і нанізваю на сцяблінку мятліцы сонейкі суніц"*.

Спасибо Вам!

Здоровья, сил, творческого и политического вдохновения, осуществления планов, удачи и любви!

С Вами и за Вас —

**с уважением Л.КУЛЕШОВА,**
**минчанка.**

ТАК ДУМАЮ...

## *Слишком дорогой паразит*



Очень много развелось сейчас в Беларуси клещей, укус которых не предвещает ничего хорошего: клещевой борреллиоз, болезнь Лайма, энцефалит и прочее. Хоть в лес не ходи!

И потянулись люди с клещами в эпидемиологические центры — чтобы выяснить, заражен был клещ или нет. Но просто так тебя не примут — сперва нужно оплатить услугу в сбербанке и принести квитанцию аж на 31 тысячу белорусских рублей! Не дорого ли стоит этот паразит?

**М.ЛЕОНОВА.**

*г.Борисов.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
16 ЛІПЕНЯ 2013 г.

НЕСТАНДАРТ

Вольга ЮРКОЎСКАЯ:

# «Хачу, каб мае дзеці ў 11 гадоў здалі матэматыку за 11 класаў»

***У Беларусі з'яўляецца ўсё больш прыхільнікаў навучання па-за агульнаадукацыйнай школай. Упершыню загаварылі пра культуру адукацыі. Чаму бацькі аддаюць перавагу хатняму навучанню дзяцей?***

***У чым праблема сучаснай беларускай адукацыі?***

***Ці можна засвоіць школьную праграму за пару гадоў?***

***Каго выпускае сярэдняя школа і ці патрэбна выпускнікам ВНУ?***

***Адказы на гэтыя і іншыя пытанні дае маці траіх дзяцей, бізнес-кансультант, выкладчык, аўтар кніг і дзелавых выданняў Вольга ЮРКОЎСКАЯ. Дзеці Вольгі, зразумела, вучацца па-за школай.***



— Мае дочкі не вучацца ў школе так, як гэта робіць большасць дзяцей, — *распавядае Вольга*. — Дзяўчынкі здалі экзамены і па іх выніках былі залічаны адразу ў другі клас. Цяпер яны займаюцца паводле індывідуальнага вучэбнага плана дома, а ў канцы чвэрці ім даюць кантрольныя і па іх выніках выстаўляюць адзнакі за чвэрць. Хатняе навучанне было маім свядомым выбарам — я бачу шмат плюсаў у тым, што дзіця развіваецца па-за сценамі школы. Хоўмскулеры сацыялізаваны лепш за школьнікаў: вырастаючы, яны хутчэй за сваіх аднагодкаў будуюць кар'еру і больш паспяхова ўзаемадзейнічаюць з навакольнымі людзьмі, пачынаюць зарабляць раней і зарабляюць больш грошай. Пакуль іх равеснікі ходзяць у школу, многія з хоўмскулераў ужо ствараюць паўнавартасныя праекты, вядуць прадпрымальніцкую дзейнасць, далучаюцца да паспяховых кампаній.

**— На якіх правах сёння "хатняя адукацыя" ў нашай краіне? Якія варыянты ёсць у Беларусі ў прыхільнікаў навучання дома?**

— Ёсць два шляхі. Першы — экстэрнат. Трэба прыйсці ў школу і здаць экзамены на абраны клас па абавязковых прадметах. Другі варыянт — індывідуальны навучальны план. Пры гэтым вучань лічыцца ў класе, можа наведваць або не наведваць па сваім выбары любыя заняткі. У канцы чвэрці дзіця піша кантрольныя работы, пацвярджаючы такім чынам свае веды.

**— Ці трэба нам тады навучанне ў школе, у вышэйшай навучальнай установе ў тым выглядзе, у якім яно існуе цяпер?**

— Узровень патрабаванняў у існуючай сістэме адукацыі такі нізкі, што для асваення праграмы любога класа пачатковай школы спатрэбіцца ад сілы 5 дзён. Менавіта столькі часу трэба дзіцяці для вывучэння матэматыкі і рускай мовы з рэпетытарам. У сям'і, дзе бацькі сапраўды зацікаўлены ў навучанні і развіцці дзіцяці, няма праблем з засваеннем і здачай школьнай праграмы на "дзявяткі" і "дзясяткі". У Амерыцы больш за мільён дзяцей займаюцца дома. І амаль усе яны моцна апярэджваюць сваіх аднагодкаў з дзяржаўных школ. У Расіі — сотні тысяч хоўмскулераў. Больш за тое, цяпер нашы суседзі (Расія) на дзяржаўным узроўні плацяць бацькам "хоўмскулераў" *(тых, хто выбірае хатнюю адукацыю)* грошы, спецыяльную дапамогу.

У нашай школе мы не адзіны такі прыклад. У РАНА ведаюць пра нас і ставяцца вельмі добразычліва, яны задаволены поспехамі нашых дзяцей: такія вучні паказваюць вышэйшыя вынікі, займаюць прызавыя месцы на школьных алімпіядах.

**— Дзіўна, што Міністэрства адукацыі не задумалася, чаму так адбываецца.**

— Бацькі, якія бяруць на сябе адказнасць за заняткі з дзіцем у хатніх умовах, максімальна ўкладваюцца ў дзяцей, у процівагу тым бацькам, якія ўсю адказнасць за навучанне ўласнага дзіцяці ўскладаюць на настаўніка. Здольнасці або няздольнасці да набыцця ведаў у дзяцей не існуе. Навыкі і ўменні дзіцяці наўпрост звязаны з тым, колькі намаганняў і часу выдаткавалі на яго бацькі.

**— Чаму ж у вачах дзяржавы сем'і анскулераў (тыя сем'і, якія не хочуць мець са школай наогул нічога агульнага: ні станавіцца на "ўлік", ні здаваць экзамены ў канцы чвэрці) лічацца асацыяльнымі, аж да пастаноўкі сям'і на ўлік як нядобранадзейнай?**

— У гэтым пытанні я згодна з дзяржавай, таму што 95% дзяцей, якія наогул не наведваюць школу, — гэта дзеці алкаголікаў і наркаманаў. Пагаджуся, што, калі бацькі не ў стане мірна ўжыцца з сістэмай і грамадствам, патрабуецца ўмяшанне дзяржавы ў справы сям'і, каб забяспечыць правы дзіцяці, у тым ліку на адукацыю.

**— Атрымліваецца, што Мінадукацыі больш заклапочана выкананнем агульнадзяржаўных законаў…**

— У Міністэрства адукацыі няма ўласных намераў. Праўда заключаецца ў тым, што існуе агульнадзяржаўная мэта: выпусціць стандартных сацыялізаваных робатаў для працы чыноўнікамі і рабочымі заводаў. І Міністэрства адукацыі цудоўна спраўляецца з гэтай задачай.

**— А школа зацікаўлена ў высокаадукаваных выпускніках?**

— Фармальна настаўнікі здаюць навучальныя планы, якія год ад года спрашчаюцца, але прынцыпова школе ўсё роўна, ці зможа дзіця ў рэальным жыцці выкарыстоўваць веды, атрыманыя за партай.

У нас школы нясуць адказнасць толькі за фізічную бяспеку дзяцей. Асабліва паспяховых нашай краіне не трэба. Ёсць заказ дзяржавы, каб дзеці былі цэлыя і лёгка кіравальныя.

**— Тады навошта школа нагружае дзяцей ведамі, якія ім, магчыма, ніколі не спатрэбяцца? Адным у жыцці неабходны дакладныя навукі, іншым — гуманітарныя веды…**

— На жаль, той спосаб выкладання, які ў нас ёсць як дадзенасць, іх не нагружае, а наадварот, адбівае жаданне вучыцца, забівае пазнавальную актыўнасць. Навучанне магчыма толькі праз пражыванне і ўласнае дзеянне. Увесь гэты інфармацыйны шум, які завецца ў школе ўрокамі, ёсць не навучанне, а страта часу. Дзецям патрэбны заняткі, прыдатныя ў рэальным жыцці, — забаўляльныя, зразумелыя, патрэбны вопыт, які можна прайграць уласнаручна. Узяць, напрыклад, хімію або фізіку — нудныя прадметы ў школе. Аднак у Маскве ёсць "Шоу прафесара Нікаля", якое дэманструе фізічныя і хімічныя вопыты на дзіцячых святах і днях нараджэння. Дзеці ў захапленні: ім цікава менавіта такая зразумелая і наглядная форма навучання.

**— Але гэта супярэчыць існай на сённяшні дзень форме сярэдняй адукацыі ў Беларусі!**

— На жаль, у гэтым і ёсць сутнасць нашай культуры адукацыі: праграма школ, мякка кажучы, састарэла, і атрыманыя навыкі і веды цалкам не адпавядаюць рэальна неабходным. Але з іншага боку, праграма такая лёгкая і прымітыўная, што яе можна засвоіць за значна меншы інтэрвал часу, чым на яе адводзіцца. Таму працей яе прайсці, не ўступаючы ў супярэчнасці з сістэмай, і пакінуць у галаве толькі патрэбнае.

**— Колькі часу вы траціце на хатні навучальны працэс і колькі сродкаў патрабуе такая форма навучання?**

— Паслугі рэпетытара ў Мінску каштуюць ад 5 да 10 долараў у гадзіну, калі гаворка ідзе пра добрых выкладчыкаў. Большасць рэпетытараў — пенсіянеры і настаўнікі — не шануюць сябе, прывыклі нічога не зарабляць і гатовыя навучаць за 2—3 долары ў гадзіну. Я лічу, што любы бацька можа сабе дазволіць заплаціць такую суму, калі ўжо ён узяўся за хатнюю адукацыю. Мае дзеці, якія лічацца ў 3-м і 4-м класах, займаюцца дзве акадэмічныя гадзіны ў тыдзень.

**— Як будзе адбывацца навучанне ў сярэдніх класах?**

— Далей мне хацелася б правесці эксперымент. Калі мае дочкі асвояць праграму да 5-га класа, запрасіць настаўніцу матэматыкі, каб яна за паўгода дала ўсю школьную праграму па гэтым прадмеце. Асвоім — здадзім па чарзе за кожны клас. Я хачу, каб мае дзеці ў 11 гадоў здалі матэматыку за 11 класаў. Лічу, што ў нашай праграме няма нічога складанага і недаступнага. Галоўнае — выбраць правільную тактыку выкладання, каб зацікавіць дзіця.

**— А як да вашага эксперымента ставяцца дочкі? І ці не скажуць яны, калі вырастуць, што мама перанасычала іх ведамі?**

— Уся задача ў тым, каб падтрымаць у дзіцяці цікавасць, тады яно даведаецца нашмат больш, чым пры навязванні школьнай праграмы. Калі вы будзеце дакучаць з патрабаваннямі выканаць руціннную, нецікавую, непатрэбную працу ў адпаведнасці са школьнымі рамкамі, дзіця пачне вам перашкаджаць. Але калі вы прапануеце дзіцяці зрабіць нешта займальнае, яно не будзе супраціўляцца.

**— У Ведах гаворыцца, што ад нараджэння да пяці гадоў дзіцяці не патрэбна нічога, акрамя любові і кантакту з бацькамі, ад шасці да дванаццаці яно павінна пазнаваць сацыяльныя навукі, а ад дванаццаці да васямнаццаці гадоў — набываць прафесійныя навыкі. Што вы думаеце аб такім падзеле?**

— Гэта схема падыходзіць для таго часу, калі яна стваралася. Некалькі тысяч гадоў таму, калі людзі жылі ў прыродным рытме, у грамадстве гэта сапраўды было актуальна. Але цяпер дзеці ў два гады ўмеюць карыстацца ўсімі гаджэтамі лепш, чым бацькі. Паскораны тэмп жыцця абумоўлівае і тэмпы пазнання дзецьмі навакольных прадметаў і з'яў.

**— Ці ўплывае гэта на здольнасць да канцэнтрацыі ўвагі? Ці паспявае дзіця цалкам паглыбіцца ў жыццё, што пралятае міма?**

— Здольнасць сучаснага дзіцяці да канцэнтрацыі на адным прадмеце ў сотні разоў адрозніваецца ад такой жа здольнасці сялянскага дзіцяці некалькі стагоддзяў таму. Па ўзроўні развіцця абстрактнага і лагічнага мыслення сённяшняе сямігадовае дзіця адпавядае чатырнаццацігадоваму селяніну, які жыў у мінулым стагоддзі. Сучаснае грамадства, працэс камп'ютарызацыі, велізарная колькасць інфармацыі аўтаматычна фарміруюць у гэтым чалавеку тыя здольнасці, на якія людзі мінулых стагоддзяў трацілі гады і дзесяцігоддзі. Таму я не згодна з сістэмай навучання, апісанай у Ведах, — свет занадта змяніўся за мінулыя тысячагоддзі. Раней чалавек адчуваў сябе адным цэлым з прыродай, навакольным асяроддзем, грамадствам, але не быў лагічным, разумным і сканцэнтраваным. Цяпер намаганні грамадства накіраваны на тое, каб задушыць адчувальнасць, каб чалавек не адчуваў, а ўмеў думаць і канцэнтравацца.

**— Як жа, па-вашаму, вырасціць паспяховага ў сучасным грамадстве чалавека? Спрыяе гэтаму беларуская культура адукацыі?**

— Калі мы хочам, каб дзіця ў будучыні было паспяховым, шчаслівым, запатрабаваным прафесіяналам, варта ўзяць за ўзор агульнапрызнаны аўтарытэт, эксперта ў абранай сферы, прааналізаваць яго кампетэнцыі, навыкі, веды — хто ён, што ён робіць, што ўмее, чаму яго так успрымаюць. І навучыць дзіця менавіта гэтым кампетэнцыям.

У Беларусі ні вышэйшыя навучальныя ўстановы, ні школы не ставяць перад сабой мэту выпусціць паспяховага прафесіянала. Экспертамі робяцца насуперак існай сістэме навучання праз шмат-шмат гадоў пасля ВНУ. Таму, калі вы ведаеце сваю мэту, выбірайце якасці, якія патрэбны для яе дасягнення, і канкрэтна набывайце менавіта гэтыя якасці. Не спадзявайцеся на нашу сістэму навучання — як правіла, ні ў школе, ні ў ВНУ нават не думаюць, якое канкрэтнае ўменне трэба падаць, каб вырасціць спецыяліста сваёй справы, што ўмее рабіць пэўныя рэчы лепш за ўсіх у сваёй вобласці. Менавіта рабіць. Ні ў ВНУ, ні ў школах рабіць нас не вучаць. Таму відавочнай робіцца бессэнсоўнасць такога навучання.

Ёсць дзяржава, якая ставіць перад Міністэрствам адукацыі мэту — пладзіць паслухмяных, аднолькавых вучняў, зручных, прыдатных для працы ў дзяржаўных установах або на канвееры. Дзяржава атрымлівае менавіта такіх людзей. Калі ваша індывідуальная мэта — вырасціць іншых дзяцей, каб у іх было іншае жыццё, то з намерамі дзяржавы вам не па дарозе. Значыць, вам трэба вызначацца з вашай мэтай, знаходзіць спосабы яе дасягнення і — наперад! Ісці і рэалізоўваць!

**Ганна ТРУБАЧОВА,**
**Таццяна СМАЛЕНСКАЯ.**
**budzma.org**

БУДЗЬЦЕ ЎВАЖЛІВЫЯ!

## *Шкодныя кансервы*

*У Беларусі забаронена рэалізацыя партыі рыбнай прадукцыі расійскай кампаніі "Балт-Фиш плюс".*

*Пра гэта паведамляе сайт Міністэрства гандлю.*

"Органам па сертыфікацыі прадукцыі РУП "Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па харчаванні" прынята рашэнне пра адмову ў выдачы сертыфіката адпаведнасці на партыі кансерваў рыбных стэрылізаваных у бляшанках, вырабленых АТ "Балт-Фиш плюс" (Расія, Пскоўская вобласць, Пскоўскі раён, вёска Шчыгліцы), — *паведамляецца ў прэс-рэлізе.* — Адхілена ад рэалізацыі партыя з 49.992 бляшанак кансерваў ***"Траска натуральная з дабаўленнем алею"*** (маса 240 г, Даст 13865—2000, дата вырабу 05.12.2012, тэрмін прыдатнасці два гады) і 4992 бляшанак кансерваў ***"Фарэль вясёлкавая кавалачкі натуральная"*** (маса 240 г, Даст 7452—97, дата вырабу 14.12.2012, тэрмін прыдатнасці 24 месяцы).

Аналіз узораў паказаў неадпаведнасць прадукцыі па арганалептычных паказчыках".

ГИД ПО МАГАЗИНАМ

# Скидки: реальная выгода или «пылесос» для кошелька?

*Белорусы относительно недавно познакомились с западной модой на скидки, но уже вошли во вкус. За красными ценниками и разнообразными акциями часто идет настоящая охота, ведь можно разжиться добром за сущие копейки! Магазины только рады — в погоне за экономией люди сметают с полок даже тот товар, который и не думали покупать.*

*Корреспондент "Народной Воли" решила подключиться к скидкомании, чтобы проверить, стоит ли игра свеч?*




### Город попался в сети?

Изучение мира скидок я решила начать с небольшого продуктового набора. Собралась с мужем на дачу, гостей не ждали, так что набор продуктов для двоих довольно скромный: чай, сосиски или колбаса, подсолнечное масло, макароны, десяток куриных яиц, литр молока, тушенка, хлеб, печенье, а еще закончилось средство для мытья посуды. Задача-максимум — купить все необходимое исключительно на скидках и акциях.

Первым делом отправляюсь в магазин известной российской сети. Говорят, скидки тут просто впечатляющие. А еще магазин пользуется особенной популярностью у мужчин — тут всегда скидки на пиво.

Начинаю свою охоту за акциями с осмотра полок с чаем. Отличное предложение — упаковка "Ахмад: Английский завтрак" по спецпредложению обойдется в 14.900 рублей. Минус 1350 от первоначальной стоимости — совсем не плохо. Зато цена на подсолнечное масло "Линола" очень привлекательна — всего 11.900 рублей. Марка незнакомая, но цена отличная, беру.

К сожалению, на стенде с мясными консервами нет ни одной заветной карточки с надписью "Акция". А вот яйцами точно нужно затариться здесь — десяток Д-1 всего за 7500 рублей! На колбасные изделия тоже спецпредложение, но почему-то не тянет покупать сосиски за 27.900. Повременить пришлось и с макаронами — на акции только турецкие спагетти фирмы "Берилла". Их предлагали за 15.400 против 22.450 рублей. Все-таки недешево за пачку макарон, хоть само по себе предложение и неплохое. То же и со скидкой на печенье: "Ароматное" весом 300 граммов стоит 7900 рублей.

Скидок на хлеб и молоко в сетевом магазине нет вообще.

Улов после посещения универсама российской сети таков:

*масло "Линола" — 11.900 рублей,*

*яйцо куриное Д-1 — 7500 рублей.*

### Где отхватить леща?

Двигаюсь в другой сетевой магазин, правда, уже белорусский. Универсам знаменит своими рыбными запасами, но народ закупается тут сразу всем и надолго. Скидки и акции тут привычное дело, так что рассчитываю на хороший улов. До магазина приходится добираться на общественном транспорте, так что из суммы профита придется вычесть 2000 за талон.

Акция: пачка черного чая Sun light в пакетиках со сладким батончиком "Кто сказал "Му" в подарок. Цена вопроса всего 9900 рублей.

С тушенкой тоже повезло: за "Сновскую" говядину просят 26.500. На 2800 дешевле, чем обычно! К тушенке необходимы макароны. Здешнее предложение — макароны "Пастораль" за скромные 5650 рублей за 900-граммовую пачку.

В колбасном отделе единственная скидка на салями второго сорта. Совсем не то, что нужно.

На выходе интересуюсь ценами на средства для мытья посуды. Неизвестная жидкость "Хозяюшка" уценена до 8450, а знакомый "Пемолюкс" — до 10.100 рублей.

Отстояв невероятную очередь в кассу, добавляю к покупкам бутылку питьевой воды — ужасно душно. От будущего профита отнимаю еще 3000. На этот раз с собой уношу:

*тушенку — 26.500 рублей,*

*чай Sun light — 9900 рублей.*

### Рай для шопоголиков

Следующая остановка — гипермаркет. Желтых ценников с надписью "Суперцена" здесь пруд пруди. Правда, и людей не меньше...

Многие товары по привлекательным ценам так и просятся в корзинку. Перед конфетами фирмы Haribo устоять не смогла — всего 18.900 рублей за две пачки! Что ж, эту сумму тоже придется вычесть из предполагаемого профита. Жадность привела к еще одному казусу — конфеты заняли слишком много места в моей походной сумке, пришлось покупать еще и пакет. А это еще 1300 рублей.

Молока на скидках найти не удалось. Наоборот, некоторые виды молочной продукции были дороже, чем в обычных магазинах... Зато "оторваться" можно в хлебном отделе. Собственная пекарня обеспечивает гипермаркет отличным полукилограммовым пшеничным хлебом "Луковый" по смешной цене 4900 рублей (обычный батон стоит 6250). Беру. Как и средство для мытья посуды Pril. На акции оно на 5100 рублей дешевле, чем обычно. В корзинку пошло и печенье нашей фабрики "Слодыч". Пачка за сущие копейки — 1900, так что в плюсе 2100 рублей.

Кстати, оказалось, что яйца я купила на 5500 рублей дешевле, чем они стоят в гипермаркете, а на масле сэкономила минимум 1100 рублей.

Из гипермаркета домой я увезла:

*хлеб — 4900 рублей,*

*средство для мытья посуды Pril — 9900 рублей,*

*печенье "Слодыч" (2 пачки) — 3800 рублей.*

### Наши ваших погнали

Сил почти не осталось, но еще не куплены макароны и колбаса. Решаю поискать их в магазине недалеко от дома. До гипера я ехала на общественном транспорте, обратно — тем же путем. Так что за проезд еще минус 4000 рублей.

Скидки есть и здесь. Мне повезло особенно: на акции есть вареная колбаса "Докторская" высшего сорта всего за 37.400 против обычных 44.500 рублей. Беру кило!

Макароны, кстати, здесь совсем дешевые — цены начинаются от 3900. Но я думаю, что придется вернуться в первый магазин за вкусненькими турецкими. Много скидок на сладкое и соки, а вот молоко и здесь имеет монолитную цену. Что поделаешь, беру пакет по стандартной цене 8800 рублей.

Итого мои траты в "нашем" магазине:

*колбаса "Докторская" — 37.400 рублей,*

*молоко — 8800 рублей.*

Забросив продукты домой, возвращаюсь за макаронами (15.900). Все, миссия выполнена. Настало время подсчетов.

### Неэкономная экономия

Потратив ***почти целый день*** на походы по магазинам, на список из 10 позиций я потратила 136.500. Этих продуктов с лихвой хватит на все выходные на даче, а подсолнечное масло, чай и средство для мытья посуды наверняка останутся еще надолго. Общая скидка составила 33.600 рублей — совсем не плохо. Но посмотрим, что останется от этого бонуса после вычета всех расходов.

Итак, на транспорт пришлось потратить 6000, на незапланированные воду и пакет — 3000 и 1300 рублей. Но более всего ударили по экономии конфеты. Они оттяпали 18.900 от общего плюса скидок. Итог неутешителен — 29.200, которые надо прибавить к общим тратам.

Взвесив все за и против, выходит, что, гоняясь за продуктами на акциях, я ***сэкономила всего 4400 рублей***. Мда, совсем не так радужно, как казалось вначале. Стоит ли погоня за скидками того, чтобы тратить на нее целый день и массу усилий? Мне кажется, что нет.

Возможно, скидки на промышленные товары окажутся куда более существенными? Как раз поизносилась дачная одежда, а магазины обещают скидки на обувь и одежду до 50%. Что ж, проверим. Отчет о продолжении эксперимента читайте в ближайших номерах "Народной Воли".

**Мария МАЛЕВИЧ.**

АБМЯРКУЕМ!

## *А вы гатовы плаціць больш за экалагічна чыстыя прадукты?*

77% рэспандэнтаў гатовы плаціць больш за экалагічна чыстыя прадукты ў выпадку ўпэўненасці, што прадукты сапраўды экалагічна чыстыя.

Пра гэта сведчаць вынікі апытання, праведзенага ў краінах Еўрапейскага Саюза.

***А вы, паважаныя чытачы "Народнай Волі", гатовы пераплачваць за прадукты без хіміі? І калі так, то колькі?***

***Дзе вы набываеце экалагічныя прадукты?***

***Ці звяртаеце ўвагу на састаў тых жа каўбас у магазінах?***

***Ці патрабуеце сертыфікаты якасці на рынках?***

***Пішыце!***



ОФИЦИАЛЬНО

# Крыс в Минске не много

*Некоторые сайты сообщили: после недавнего ливня в Минске на улицы отовсюду повылазили крысы. Вчера главный врач минского Центра профилактической дезинфекции* ***Владислав Зубелевич*** *заверил, что ситуация с крысами в белорусской столице "не критичная", их травят 30 видами приманки.*

*"Нашествия крыс на улицах Минска после ливня не было. Они не выходили стройными рядами из ливневой канализации,* — цитирует Зубелевича interfax.by. — *Безусловно, можно увидеть грызунов на улице после сильного ливня, когда заливает ливневые стоки, но критической ситуации в Минске по крысам нет".*

При этом он отметил, что *"в Минске крыс не много — их численность не превышает нормативные показатели". "В столице налажена четкая система по уничтожению грызунов и по профилактике".*

По словам Зубелевича, в соответствии с общепринятыми стандартами *"нормой считается, когда в городе насчитывается 5 крыс на 1 кв. км, а в Минске всего лишь 2,3 крысы на 1 кв. км — этот показатель даже ниже среднеевропейского".*

Он также рассказал, что каждый месяц для травли крыс в Минске готовится 2 тонны приманки.

*"Мы готовим приманку по 30 новейшим рецептурам. Это уникальные рецептуры, над ними работали в научно-исследовательских институтах. Таких рецептов приманки для крыс, как в Минске, нет нигде в Беларуси",* — отметил В.Зубелевич. Главврач отказался сообщить, какие именно яды используются для травли крыс в Минске, но уточнил, что *"в качестве приманки применяется печенье, мед, орехи, чипсы, крупа". "Крысы любят сладкое".*

